АУТОРАК, 21 КАСТРЫЧНІКА 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопісь, выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

ГОД I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 18.




Гроб Івана Луцкевіча ў Закапаным († 20 жніўня 1919 г.).
Мы даведаліся, што, як пачнуцца марозы, цело памёршага І. Луцкевіча будзе перавезено ў Вільню.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА.

„Незал. Белар.“ паведамляе, што Цэнтр. Белар. Рада Віленшч. і Горадз. зьвярнулася да Камісара Усходніх Зямель з мэморыялам у справе беларускай школы. У гэтым мэморыяле між інш. гаворыцца:

„Безстаронныя факты і цыфры прымушаюць сцвердзіць, што лепшы час для культурнага будаўніцтва беларускага народу з прыходам польскіх войск пакуль што не наступіў яшчэ. Мала таго, тыя-ж безстаронныя факты і цыфры ў пытаньні аб школьным будаўніцтве беларускага народу кажуць, што апошнія 5—6 месяцаў прынясьлі ў школьным пытаньні пагоршаньне навет з палажэньнем, якое было ў часе нямецкае окупацыі“.

Далей гаворыцца аб палажэньні беларускай школы ў часе нямецкай окупацыі, далей аб тым, што было ў часе бальшавіцкага панаваньня, а далей даецца сьцяг фактаў з цяперашняга мамэнту.

„З чысленных дакладаў вучыцялёў відаць, што мясцовая школьная ўлада (паветавыя інспэктары) заўсёды знаходзілі тую, або іншую прычыну дзеля адмовы даць пазваленьне адчыніць беларускую школу. А часам, праўда у рэдкіх здарэньнях, мясцовае начальства навет не турбавалася падшуканьчем якое-колечы пристойнае прычыны, а простай не матываванай адмовай якбы дэмонстравала свае адносіны да беларускага народу і яго жаданьняў. Гэткім парадкам у залежнасьці ад тактычнасьці, асабістых паглядаў і сымпатый п. п. паветавых інспэктароў пасланыя вучыцялі сустракалі або варажае да сябе адношаньне, або формальна-лёяльнае, але вынік усюды быў адзін: *адчыняць беларускія школы не пазваляліся.*

Як прыклад воражага адношаньня можна прывясьці такія факты: п. школьны інспэктар Сакольскага павету на прозьбу беларускага вучыцеля В. Казлоўскага сказаў, што не пазволіць адчыніць ня толькі урадовае, але навет прыватнае беларускае школы, пры гэтым дадаў, што за стараньне адчыніць беларускую школу вучыцель Казлоўскі можа быць арыштаваны. Той-жа паветавы інспэктар группе другіх беларускіх вучыцялёў заявіў, што пазволіць толькі школы польскія і расейскія і выразіў гатоўнасьць зацьвердзіць тых беларускіх вучыцялёў, каторыя будуць вучыць у расейскай мове, а на ўвагу беларускіх вучыцялёў, што яны беларусы і могуць вучыць толькі ў сваёй роднаў мове, п. школьны інспэктар адказаў: „калі так, то едзьце ў сваю Беларусь, калі толькі яна дзе-небудзь ёсьць, а тут я не пазволю“. П. школьны інспэктар беластоцкага павету беларускім вучыцялём Касцюку і М. Куршэлю адказаў, што у беластоцкім павеце няма беларусаў, а ёсьць толькі каталікі і праваслаўныя; у Горадне па загаду школь-

З. БЯДУЛЯ.

# СЬМЕРЦЬ ПАНІ.*

— Іш ты, стары!—заківала на яго фурманіха галавой, — а гэта па твояму хаханкі якія?—пытаецца яна у лёкая, тыкаючы пальцам на свой жывот.—Дзеці, гэтыя праклятыя, парасяты, во хто мяне трымае! Бадай што год і насі іх, і радзі, і гадуй! Каб іх ліхо ўзяло разам з іх бацьком гнілым і дурным!

— О, крый Божа,—здзівіўся лёкай, — у цябе іх ужо восем штук, апрача тых, што памёрлі.

— Ага, агледзіўся! а гэты во дзевяты, дзякаваць Богу, нашу. Сёмы месяць ідзець.

— Дзевяты!—ударыў сабе лёкай пальцам у лысіну, нібы цяпер толькі зразумеў ён усю бяду фурманіхі,—дзевяты...

— Ну, во бачыш!—разгарачылася фурманіха яшчэ болей, — нарэкалі суседзі ўсе, чаму я б'ю свайго мужа. Бачыш, варта было яго біць, га, варта?

Яна пытаючыся соваецца да яго бліжэй, ажно лёкай усё адыходзіць назад, троху пужаючыся яе.

— Але-ж ён добры чалавек—с сумненьнем пачынае лёкай бараніць фурмана.

— Глупство кажаш. На ліхо якое мне яго дабрато, калі апрача панічых коней і пугі ён болей нічога ня ведае. Няхай бы ён лепей мяне біў, але каб карміў хлебам, як Міхалка Баравы. Я бы тады з ахвотай яму плечы падставіла і сказала-б: на, бей! А цяпер я яго б'ю—хоць злосьць спаганяю.

Выскачыла пакаёўка з глыбі пакояў і казала фурманісе гаварыць цішэй, бо у паніным пакою ўсё чуваць.

Пакаёўка ціха вярнулася назад, а фурманіха пачала зноў гаварыць шопатам, тым буйным шопатам, каторы рэжа паветра, ні-

*) Глядзі № 17.

нага інспэктара будынак беларускае школы з рухомасьцю, навет прыватнай, без адноснай пастановы магістрату быў адабраны для польскае школы.

Калі і не заўсёды беларускія вучыцялі сустракалі гэткі воражы прынятак, то ў адносінах да выніку справы ня больш прыхільны, бо тыя формальна - лёяльныя адмовы п. паветавых інспэктароў з сылкай на інструкцыі п. Школьнага Інспэктара Віленскага Вокруга былі ў сваёй істоце роўназначны першым."

Беларуская Рада лічыць, што справа беларускага школьнага будаўніцтва можа быць скранена з мёртвага пункту, на якім яна цяпер стаіць, пры варунку прыняцьця пададзенага Беларускай Радай праекту „Уставы аб Беларускай народнай школе".

Азначаная „Устава" правідзіць згоднае кіраўніцтва беларускімі народнымі школамі Школьным Аддзелам Беларускай Рады і прадстаўнікам гэтага Аддзелу пры п. Генэральным Камісару „Усходніх Зямель".

Толькі правядзеньне ў жыцьцё „Уставы аб беларускай народнай школе" можа задавалююча разьвязаць у рамках сучасных палітычных варункаў беларускае школьнае пытаньне. „Устава" абасьпячаючы беларускім арганізацыям той мінімум ўплыву на пастаноўку народнае асьветы, без якога ня можа быць мовы аб нацыянальна-культурнай свабодзе і незалежнасьці, разам з гэтым можа спыніць давольны і самавольны пагляд мясцовага школьнага начальства на беларускае школьнае пытаньне ды абасьпечыць паўнату і ўсестароннасьць пры разьвязцы бягучых і асноўных пытаньняў беларускае школы.

У паменёнай Уставе першыя самыя важныя пункты гавораць вось што:

1. Вышэйшае кіраўніцтва беларускімі народнымі школамі на абшары Віленшчыны і Горадзеншчыны концэнтруецца ў школьным аддзеле Цэнтральнае Беларускае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны.

2. У справах, вымагаючых зацьвярджэньня і пазваленьня п. Генэральнага Камісара Усходніх Зямель, Школьны аддзел зносіцца з п. Ген. Камісарам праз асобнага прадстаўніка.

Узапраўды школьнае пытаньніе ў Беларусі цяпер зьяўляецца адным з самых балючых і дзеля таго тая-ж „Незалежная Беларусь" зусім справядліва піша, што „без аздараўленьня школьнай справы ў нас, не магчыма ніякая супольная праца беларусоў з палякамі і мы на школьную справу ў Беларусі зварочуем увагу тых палякоў, каторыя ў гэтай супольнай працы бачуць рэальную карысьць для абодвых народаў."

Але. Ужо даўно час, каб тыя, ад каго гэта залежыць, зразумелі, якую шкодную работу робіць у нас польская эндэцыя, займаючы важнейшыя адказныя становішчы

---

бы нож нацягнутае палатно. Гаворучы фурманіха уся дрыжэла, а яе жывот рухлівы і пукаты хадзіў хадыром...

— І колькі-ж мой панскі прыхвасьцень меў ад мяне лупцоўкі затое, што старшага хлопчыка хацеў аддаць за пастуха да пані! Не, бручка гнілая—казала я яму — недачаканьне! Я свайга сына ляпей аддам за сухі кавалак хлеба самаму беднаму гаспадару у Жорнаўцы, самаму гарапашнаму мужыку, дык хлопец выўчыцца панамся працаваць па людзку і пэўне ў людзі выйдзе; я не хачу, каб ён на ўсё жыцьцё панскім гультаём зрабіўся. Вось я і аддала Міхася свайга Габрусю Канцавому, і з другімі дзяцьмі я так зраблю, далі пан, зраблю!

Раптам фурманіха настаражылася:

— Во, едзе! мой едзе, дзякаваць Богу!

— Ці-ж едзе? Я ужо ня чую добра — кажа лёкай.

Фурманіха выскачыла на ганак. За ёю выйшлі лёкай і яе малая дзяўчынка. Хоць пакой астаўся пусты, але тое ажыўленьне, якое ўнесла сюды гэтая энэргічная кабета— фурманіха, ня ўсьпела вытхнуцца с палуцёмнага пакою. Здаецца, што і пасьвятлело нават, нібы хтосьці сьветлае паветра упусьціў сюды, а цені нехта падмёў разам с павуціной і ўсе страхі зьніклі адгэтуль. Страхі спужаліся зычных гукаў жыцьця ды туманом паплылі...

З вуліцы чуўся гук розных галасоў, больш ўсяго голас фурманіхі.

Хутка ўсе вярнуліся ў пакой, ціха, асьцярожна ступаючы.

— Знача ты дохтара ў мястэчку не дачакаўся?—казаў упадшым голасам лёкай.

— Не дачакаўся!—перадразнівае яго пудліва фурман — калі дохтар выехаў з дому, казалі мне, на цэлыя два дні.

— Вось, крый Божанька, не шанцуе!— забедаваў лёкай.

— Кіньце перэліваць з пустога ды у парожнае—махнула рукамі фурманіха — ніякія

і сваей дзеяльнасьцю аддаляючы час збліжэньня двох братніх народаў: беларускага і польскага.

# З ГАЗЭТ.

Менскі „Звон“ у № 21 пад загалоўкам: „Ня маюць прытулку“ піша вось што:

„Менск—сэрцо Беларусі, яе этнографічная сталіца. Так пішуць у газэтах і так думаюць людзі, каторыя жывуць па-за межамі Беларусі. Але мы мусім зазначыць, што гэта памылка і няпраўда, бо хіба ня можа быць дзе-небудь на сьвеце, каб сам народ у сваей уласнай сталіцы ня меў сабе прытулку?! А беларусы ў Менску ня маюць прытулку. Іх, адвечных гаспадароў гэтага места, выціснулі адусюль, адкуль толькі моцна было выціснуць.

Была ў беларусаў настаўніцкая сэмінарыя ў Менску. Яна перажыла самыя цяжкія часы бальшавізму і ўсё чакала лепшай долі. Месьцілася яна па Захараўскай вуліцы № 43, мела сваю маетнасьць і цэлы штат настаўнікаў. А гдзе яна цяпер? Маетнасьць яе паразьбіралі сквапныя людзі, а памяшканьне занялі тыя, хто ўжо сапраўды цераз хлеб— хлеба шукае. Паглядзі, чытачу, хто цяпер месьціцца у будынку беларускай сэмінарыі і запытай сябе, ці-ж ня маглі яны знайці сабе іншага месца, каб хоць крышку шанавалі той народ, установы каторага павыкідалі на вуліцу?!

Была ў Менску беларуская гімназія на Александраўскай вуліцы, а паглядзі, чытачу, хто там цяпер месьціцца і запытай сябе, ці-ж не маглі яны знайці сабе лепшага месца, каб не хацелі крыўдзіць таго, хто праз вякі зносіць зьдзек і паняверку?!

Быў у Менску Настаўніцкі Інстытут, каторы стаў вышэйшай пэдагогічнай беларускай школай. Месьціўся ён у скарбовым памяшканьні, дзе была калісь расейская рэальная гімназія, а паглядзі, чытачу, хто цяпер займае тое памяшканьне і запытай сябе, ці-ж не наўмысьля ўсё гэта робіцца, каб спраўдзіць словы: „на каго Бог, на таго і людзі“.Ці-ж не маглі яны, маючыя сілу і ўладу, знайці сабе іншага мейсца, каб хацелі жыць у дружбе і згодзе з тым народам, каторы нацярпеўся столькі гора, сьлёз і пакуты?

Не, мімаволі хочацца сказаць, што ўсё гэта робіцца наумысьля, нарокам і сьвядома чыніцца крыўда і незабываемая абраза. Мабыць нехта сьвядома стараецца ўсякімі спосабамі змагацца з беларушчынай і ставіць беларусам перашкоды. Бо ня можна, напрыклад, дапусьціць, каб той шпіталь, што займае цяпер памяшканьне інстытуту, зрабіў гэта сам, без нарады з некім іншым, хто

---

дохтары ўжо ёй не памогуць, калі прыйшла пара. Паня ўжо досіць старая. А паніч, яе сын, мае вялікі грэх за тое, што з маткай роднай папрашчацца не прыехаў. Нябось, па сьмерці яе ён прыедзе ды ўсіх нас прагоне са двара, як бадзячых непатрэбных сабак... Ён хваліўся, што нават парабкаў выкіне адгэтуль усіх.

Як правініўшыйся школьнік, пазіраў на фурманіху спадлоба яе муж. Пугу трымаў ён у правай руцэ, а левай ён палез за пазуху і выняў адтуль хустку ў кветках, ціха падаючы жонцэ сваёй.

— Ідзі да сваёй пані з тасьцінцам, не да мяне! — зашыпела на яго злосна жонка і кінула яму хустку ў вочы. Рэдзенькая яго барада задрыжала. Ён нічога не казаў, толькі пачаў левай рукой церабіць сваю ўскалопачаную галаву. Пры гэтым у яго з-запазухі пасыпаліся некалькі абаранак і яго малая дзяўчынка радасна пусьцілася іх падбіраць.

На гэты шум выскачылі ахмістрыня і пакаёўка.

— Няма дохтара! — казалі ім фурманіха і лёкай у адзін голас. А фурман ўсё яшчэ церабіў сваю патыліцу і, як вельмі завінавачэны стараўся на нікога не глядзець.

— І ня трэба!—казала ахмістрыня.—Пані толькі што сама казала, што ня трэба дохтара, бо ён яе толькі мучае рознымі лекарствамі, гаркімі парашкамі ды зялёнай жыжай з розных бутэлячак.

— А як паня маецца?—пужліва глянуўшы на жонку, запытаўся ціха і таёмна фурман у ахмістрыні.

— Тое самае, а вось за бацюшкай я хацела другі раз пасладь дык яна аднеківаецца, ня хоча.

— Яна іх ніколі ня любіла ды ў царкве мала бывала—казаў лёкай—мне нават дзіўна было, як яна яго да сябе недаўна пусьціла.

— Ды на што гэтыя паны—казала фурма-

выкарыстаў яго для змаганьня з беларушчынай.

Гэтыя тры прасьветныя ўстановы беларусы толькі і мелі—і яны разрушаны.

Польская ўлада павінна зьвярнуць на гэта ўвагу, і, калі яна шануе свайго Дзяржаўнага Начальніка, каторы лічыць сябе прыхільнікам і прыяцелем беларушчыны, то мусіць зараз-жа зрабіць станоўчыя заходы, каб загладзіць прычыненую беларусам у іх уласным горадзе цяжкую крыўду. Польская ўлада павінна гэта зрабіць, калі мае дзяржаўны розум і разумее сваё становішчэ, бо сталося так, што беларусам пакінулі адно толькі права,—права пазіраць на жыцьцё іншых ды моўчкі сьціскаць кулакі, распаляючы у сэрцы помсту.“

## ВАЯК.

Сеў ваяк на каня,
У рукі ўзяў востры меч
І пусьціўся да дня
Пашукаць каго сеч.

Не малы ехаў час,
Не сустрэўся нідзе,
Аж напроці якраз
Вораг войска вядзе.

У яго старану
Гмін вядзе на грабеж;
Перайшлі баразну —
Пагранічны рубеж.

Схамянуўся ваяк,
Кроў зайграла ў грудзёх,
Сьціснуў меч у руках,
Конь памчаў з усіх ног.

Наляцеў, як пярун,
На разбойніцкі зброд;
Запусьціў меч-кладун,—
Сьцеражыся, народ!

Бье агонь з дзяцюка,
Косе галавы с плеч,
Не здрыгнецца рука,
Не тупеецца меч.

Тысячу ўжо лягло,
Ужо другую сячэ,
А праціўнік на зло
Войска больш валачэ.

Гэй, трымайся, дружок!
Не дрыгні ў барацьбе:
Жджэ пахвалы вянок,
Жджэ дзяўчына цябе!

На бяду захацеў
Дзеўку ўспомніць ваяк, —
Меч з рукі паляцеў,
Сам зваліўся на ўзнак.

ніха — толькі народ абіраюць. Мой стары бацька, вечны пакой яго душы, як памёр дык я тады болей хлапот мела с папом чымся з бацькам.

— Ой, застаялася я тут, а там паня адна!—усхапілася пакаёўка і паляцела. За ёю пайшла і ахмістрыня зьвінючы ключамі.

— Хутка зубамі зазьвініш-заляпаеш! — кінула ёй у дагону фурманіха.

Зрабіллася ціха, усе падыйшлі да дзьвярэй і пачалі прыслухоўвацца.

З жыццём гэтай старай пані было вельмі моцна зьвязано і іх жыцьцё; але, апрача гэтага, у кожнага запанавала і пустая цікавасьць: велмі хацелася ўсім зайсьці у той пакой, у сьвятую-сьвятых, дзе паня ляжыць пры сьмерці.

Як бы ў адказ на гэта іх жаданьне, пачуліся крокі,—выйшла пакаёўка і казала, што паня прасіла ўсіх да сябе ў пакоі.

— Прасіла?! — уздзівіліся ўсе і ціхай грамадой пайшлі да пані.

Як толькі увайшлі ў пакой, іх абдало цяжкім паветрам, зьмешанае з карболкай. Ня цікавілі іх розныя абразы на сьценах, партрэты цароў, малюнкі ваякаў, паляўнічых з зьвярыма, шафы, столікі—адна толькі паня цікавіла іх.

Нізка пакланіліся пані, кажучы: „Пахвалёны“! Паня ківала галавой, старалася ўсьміхацца. А як хацелі руку пацалаваць, казала, што ня трэба, бо ей цяжка. Агледзіла ўсіх і вялела паклікаць і парабкаў.

Выскачыў фурман і хутка прывеў трох парабкаў барадатых, нібы абросшых мохам. На сьвітках у іх была мякіна ад малацьбы. Рукі, цёмна-бурыя, мазолістыя, былі апушчаны ў ніз і віселі як чужыя, як прычэпляныя. Зьбіліся яны ўсе ў кучу проціў пані, як куст апенак каля гнілога карча і сурьёзныя, з вялікай павагай, пазіралі на яе.

Дзіўна ім было, чаму паня такая пажаўцелая, сухая, а вочы такія ясныя прытомныя і ветлыя.

Рухнуў побач і конь —
Разам жыў, разам лёг,
Неба яснага тонь
Свой паслала палог.

Сьпіць ваяк з доляй сам,
Над ім птушка пяе,
А дзяўчыне не ўцям,
Што памёр праз яе.

Акопы. 24/VIII—19 г. **Янка Купала.**

# БЕЛАРУСЬ.

## БУЦЛАЎСКАЯ ГІМНАЗІЯ.

Мы нідаўна (№ 15) пісалі аб тым, што школьны інспэктар Віленшчыны п. Вэнслаўскі зачыніў у Буцлаве беларускую гімназію, наладжэную з гэтакімі труднасьцямі. Цяпер мы даведаліся, што ў Цэнтральную Беларускую Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны паступіла ад грамадзян Буцлаўскай воласьці ў справе гімназіі прозьба з 500 подпісамі гэткага зьместу:

„Па распараджэньню польскіх улад зачынена ў м. Буцлаве наша беларуская гімназія, а таксама запячатаны ўсе падручнікі, кніжкі вучнёўскія, коопэратываў і іншая маемасьць, належная гімназіі.

Дзеля таго, што народ наш толькі беларускі, якой бы ён веры ня быў, ці праваслаўнай, ці каталіцкай, дзеля таго што нашай хатняй мовай зьяўляецца мова беларуская—спыненьне чыннасьці і працы нашай гімназіі, каторая была сьветлым праменьнем у нашым гаротным жыцьці, зьяўляецца для нас вельмі цяжкім горам.

Просім Цэнтральную Беларускую Раду, як выраз нашай волі, ужыць усіх спасабоў, каб нашыя дзеці ў будучыне нас не праклінäлі, аб скарэйшай працы Беларускай гімназіі, што дасьць магчымасьць і нам „людзьмі звацца“.

„Gazeta Polska“ 14 кастрычніка піша аб гісторыі заснаваньня гімназіі, аб адказе, які даў школьны інспэктар п. Вэнслаўскі дэлегацыі, каторая да яго ў гэтай справе зьверталася, і канчае сваю стацьцю гэтак:

„Трудна верыць якая аграмадная нязгоднасьць паміж тэорыяй і практыкай, паміж законам і пашанай гэтага закона, паміж загадам і яго спаўненьнем.

Гістарычная адозва Галоўнага Камандуючага і Начальніка Польскай Дзержавы, якая дана ў сёлятнім годзе 22 красавіка ў Вільні да жыхароў гэтага края, кажа, што жыхары гэтай зямлі вольны і маюць права кіравацца ў сваім жыцьці ўласнымі законамі.

А восьураднік „Цывільнага Ураду Усходніх Зямель“ кажа—не! я тутака закон і гаспадар жыцьця і сьмерці“!

---

— Перад сьмерцью заўсёды так,—думаў кожны з іх.

А паня агледала кожнага з ног да галавы, пранікала вачыма, ажно ім і цяжкавата было перэнасіць яе пагляд, бо бачылі і разумелі, што яна і думкі іх ведае — ужо гэткую сілу мае чалавек перад сьмерцью.

— Клікала я вас сюды дзеля таго, — слабым голасам пачала гаварыць паня,—што сьмертухна мая падыходзіць. Ужо яна ў галовах маіх стаіць. Коні запрэжаны і мяне чакая вялікая дарога... Але перад гэтым я хачу папрашчацца з вамі. Так нецерпяліва чакала я сына. Хацела яму перад сьмерцью даць наказ, каб усе вы асталіся на сваіх мейсцах, але сын ня прыехаў, мо наумысьне дзеля таго, каб ня выслухаць майго наказу... Ну, Бог з ім! Выбачайце мяне, добрые людзі, можа калі пакрыўдзіла каго?

— Ніколі панічка нас ня крыўдзіла! — адазваліся ўсе як бы хорам.

Сьлёзы пачалі душыць старога лёкая і фурмана. Парабкі так сама выціралі вочы чорна-бурымі кулакамі.

Спакойна стаяла толькі адна фурманіха.

— Бог вас не пакіне... — слабым голасам сказала паня і змоўкла. Відаць было, што яна яшчэ хацела гаварыць, але ей было цяжка.

Пакаёўка папpавіла падушку і прыкрыла яе коўдрай. Людзі адыйшліся да сьцяны, а паня усё глядзела на іх. Даўжэй як на другіх яна паўзіралася на фурманіху. Паня добра ведала, колькі фурман меў ад яе лаянак і лупцовак і вось цяпер паня зразумела ўсю праваты фурманіхі...

Задумываючыся над гэтым, паня пачала стыгнуць, ад кончыкаў пальцаў ног і рук, нейкі халадок абхопліваў усё яе слабое цело, даходзючы, крадучыся, усё бліжэй і бліжэй да грудзей, да сэрца...

Думкі пані пачалі блутацца. Вочы заставіліся.

Сьвечкі і абраз!—зашапталі людзі.

## МЕНСК.

Вельмі цікаўную адозву да жыдоўскага грамадзянства надрукаваў менскі „Звон“.

Вось яна:

„Да жыдоўства.

Шмат гадоў, вы як жывецё на Беларусі поплеч з нашым народам. На нашай зямлі расьцьвітала ваша нацыянальная і эканамічная культура.

Месты і мястэчкі нашага краю парабіліся цэнтрамі, стварыўшы праз доўгія гады ажыўлены гандаль.

Наш селянін-хлебароб меў з вамі пастаянную стычнасьць.

Гістарычны лёс стварыў паміж жыдоўскім і беларускім грамадзянствам такія абаюдна-злучныя ўмовы жыцьця, без якіх нельга было абыйсьціся.

Розныя непаразуменьні паміж намі часам выяўляліся з прычын жалезных апцугоў самадзержаўнага расейскага ўраду, каторы душыў як жыдоў, так і беларусаў.

Ад расейскай чорнай сотні цярпелі і вы, і мы.

Самае глаўнае цярпеньне беларускага народу пад маскоўскімі урадамі, — як самадзержаўным, так і бальшавіцкім,—гэта зьдзекі над нашай нацыянальнай душой, сыстэматычнае нішчэньне беларускай самабытнасьці, культуры і г. д.

Наш край русыфікаваўся расейскім чыноўніцтвам, а пад яго напорам і вамі.

Мы жыдоўскаму грамадзянству гэта ў віну ставіць ня будзем—у гэтым вінавата сама гісторыя.

Але цяпер, у часу нашага культурнага адраджэньня, мы зьвяртаемся да вас:

Цікаўцеся болей сваім суседам—беларускім народам. Зьвярнеце і вы ўвагу на яго культуру і адраджэньне.

Лічэцеся ня толькі з грубай сілай каго-бы то не было, а ідзіце на сустрэч нашаму селянскаму руху.

Цяпер, калі ў нас пачынае тварыцца новае жыцьцё, мы хочам працаваць у згодзе з усімі народнасьцямі Беларусі—у тым ліку і з жыдоўскім грамадзянствам.

Клічамо вас да працы як сусед-суседа, як роўны-роўнага“.

## РАДАШКОВІЧЫ.

5 кастрычніка паміж станцыямі Заслаў і Радашковічы здарылася катастрофа на чыгунцы з поездом, які йшоў з Вільні ў Менск. Стрэлачнік ст. Радашковічы пусьціў поезд на папсаваны мост. Поезд зваліўся з мосту ў аткос (5 вярстоў за Радашковічамі). Цягнік і 15 вагонаў разьбілося. З пад абломкаў вагонаў выцягнулі 23 трупы і каля 100 асоб раняных.

Следзтва ў гэтай справе ўжо закончэ-

---

Ахмістрыня прынесла некалькі сьвечак, запаліла і паставіла каля пані. Пакаёўка падала абраз.

Уздрыгнулася паня усім целам і выцягнулася.

— Памёрла!—крыкнула пакаёўка, кінулася да пані, стала на калені і давай галасіць.

— Памёрла!—вырвалося з усіх грудзей.

Спакойна маўчала адна толькі фурманіха.

— На каго-ж ты нас пакінула, панічка?— галасілі ахмістрыня і пакаёўка.

Мужчыны маўчалі, нібы аглушаныя, вінаватыя...

Болей як на усіх відаць была вінаватасьць на твару фурмана. Ён часта палахліва касурыўся ў старану сваей жонкі. Яна гіпнатызавала яго сваімі злоснымі і страшнымі вачыма, якія ўпіліся ў яго. Фурман дрыжэў. І толькі тады ў яго адлягло ад сэрца, калі жонка сьціснула рукі свае ў два моцныя кулакі і, сьцяўшы зубы, намерылася яго біць. Пры гэтым яе жывот моцна выпучыўся упярод.

Здалося, што зараз яна апусьціць свае цяжкія кулакі на твар мужа і пачне яго біць доўга і бязлітасна будзе яго лаіць апошнімі славамі, але, глянуўшы раптам у старану трупа, яна апусьціла рукі, аслабеўшыя, размякшыя і хрыплы крык вырваўся з яе грудзей:

— Жыцьцё мае горкае!

**З. Бядуля.**

КАНЕЦ.

на. Вінаваты ў катастрофе пэрсональ ст. Радашковічы. Вінаватыя будуць аддадзены пад суд.

# КРОНІКА.

### БЕЛАРУСКАЯ І ЛІТОЎСКАЯ КАТЭДРЫ НА ВІЛЕНСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦІ.

Мы даведаліся, што прэдстаўнікі польскага дэмократычнага старонніцтва ў Вільні хадзілі да рэктора Віленскага Унівэрсытэта, п. Седлецкага, з каторым між інш. гутарылі аб адкрыцьці на Унівэрсытэці катэдраў беларускай і літоўскай мовы і літэратуры, высказываючы свой пагляд, што гэтакія лекцыі ў Вільні канечне патрэбны. Рэктор згодзіўся с паглядам прэдстаўнікаў дэмократычнага старонніцтва і з свайго боку абецаўся, што ў хуткім часе пачнуцца гэтакія лекцыі,

### ПОЛЬСКА-ЛІТОЎСКІЯ КОНФЭРЭНЦЫІ.

„Gazeta Polska“ піша, што дзеля польска-літоўскага паразуменьня наладжываюцца конфэрэнцыі прэдстаўнікаў польскага і літоўскага грамадзянства. „Гэтыя конфэрэнцыі—піша „Gazeta“—зніштожываючы істнуючую недаверчывасьць і спыняючы розныя фальшывыя весткі, якія каб пасварыць нас пашыраюць нашыя суседзі, павінны палажыць фундамэнт згоды братніх народаў“.

### БЯЗДОЛЬНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ.

У першых днёх кастрычніка сёл. г. ў беларускую гімназію ў Вільні прывязьлі з прыфронтавай паласы 70 беларускіх дзяцей.

Дзеці гэтыя былі ў вельмі цяжкіх варунках: елі траву, жылі ў акопах. Ня гледзячы на халодную пару, дзеці бяз вобую, бяз цеплае вопраткі. Спачатку здавалася, што пракарміць дзяцей будзе ня вельмі трудна. Есьць розныя камітэты, якія дастаюць, прадукты, вопратку, вобуй і г. д. для дзяцей Беларусі і Літвы ад Амэрыкі, ад каторых і можна будзе дастаць усё патрэбнае. І вось ужо два тыдні, як тыя, каму даручана апекавацца над дзяцьмі, ходзяць ад аднае дабрадзейнае ўстановы да другое, ад аднаго аддзелу да другога, час праходзіць, а дасюль нічога не змаглі дастаць.

Мы стаём перад страшным нябывалым нідзе фактам: 70 бясхатных беларускіх дзяцей ня маюць у Беларускім краі ніякага прыпынку, у той час, калі другія нацыянальнасьці нашага места маюць па некалькі прытулкаў. Факт гэты кажа сам за сябе.

(„Незал. Белар.“)

### ЗЬБІРАЦЕЛІ ПАЧТ. МАРАК.

Нас просяць надрукаваць: Загранічнае таварыство філятэлістаў (зьбіраццеляў марак) зьвярнулося ў Віленскае Цэнтр. Статыст, Бюро з прозьбай падаць адрэсы таварысть. асоб і гандляроў маркамі. Асобы, зацікаўленыя ў гэтым, няхай пашлюць свае адрэсы ў Цэнтр. Статыст. Бюро—Домініканская 2, пакой 147.




**Рэдакцыя і Адміністрацыя:** Сьв. Міхальскі завул. 2, кв. 16. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Военною цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Квашэльная 23.